№ 8 (169)
Люты 2007 года



# Краязнаўчая газета

Выдаецца з красавіка 2003 года

## У нумары:





## Народнаму хору імя Г.І. Цітовіча — 55 гадоў

Пачатак яму быў пакладзены ў маляўнічай песеннай вёсачцы Вялікае Падлессе, што на Брэстчыне. Менавіта тут забруіла жыватворная крынічка звонкага і чыстага шматгалосся.

На аснове невялікага Падлескага хору, якім кіраваў Генадзь Іванавіч Цітовіч, у 1952 годзе быў створаны Дзяржаўны народны хор. У 1975 годзе народны хор узначаліў мастацкі кіраўнік і галоўны дырыжор, вучань Г.І. Цітовіча, Міхаіл Паўлавіч Дрынеўскі. Гэта высокакваліфікаваны харавы дырыжор, выдатны знаўца музычнага фальклору, цяпер народны артыст Рэспублікі Беларусь, лаўрэат Дзяржаўнай прэміі Рэспублікі Беларусь.

Шчыра віншуем выбітны калектыў з 55-годдзем! Жадаем добрых сустрэчаў, плённых пошукаў і задавальнення ад творчасці.

Будзьце здаровы, жывіце багата!

*«Краязнаўчая газета»*

## 200-годдзю Напалеона Орды прысвячаецца

***15–16 лютага 2007 года ў адзначэнне Года Напалеона Орды, абвешчанага ЮНЕСКА, адбылася Міжнародная канферэнцыя ў Нацыянальнай акадэміі навук Беларусі «Напалеон Орда: жыццё, творчасць, мастацкая спадчына», якую арганізавалі Міністэрства культуры Рэспублікі Беларусь, Нацыянальная камісія Рэспублікі Беларусь па справах ЮНЕСКО, Інстытут мастацтвазнаўства, этнаграфіі і фальклору імя К. Крапівы НАН Беларусі.***

У зале пасяджэнняў Прэзідыума НАН Беларусі перад прысутнымі навукоўцамі, дзеячамі культуры і навукі Беларусі, Літвы, Польшчы, Расіі, Украіны выступіў старшыня Прэзідыума НАН Беларусі М.У. Мясніковіч, вядомыя даследчыкі творчасці Н. Орды з нашай краіны і госці: А. Лакотка, В. Левандаускас (Літва), В. Дадзіёмава, Е. Ахвердава, В. Пракапцова, В. Качан і іншыя. Адбылася дыскусія на тэму «Мастацкая спадчына Напалеона Орды і яе значэнне для сучаснай культуры». У час яе выступілі А. Федарук, А. Кулагін, Р. Міхайлава (Украіна), Т. Габрусь, Л. Несцярчук і іншыя.



У час «круглага стала» «Напалеон Орда: жыццё, творчасць, мастацкая спадчына», на якім думкі выказалі А. Мальдзіс, У. Шчасны, У. Гілеп, У. Шэляговіч, А. Лакотка, Б. Лазук і іншыя, пасля абмеркавання тэмы быў адрэдагаваны з улікам заўваг канферэнцыі яе Выніковы дакумент.

Пад час канферэнцыі адбыўся і ўрачысты канцэрт з твораў кампазітара Орды і яго сучаснікаў, які падрыхтаваў Нацыянальны канцэртны аркестр Беларусі.

***Наш кар.***

**(Працяг тэмы на стар. 2)**

*Прагрэс навук і машын – гэта карысны сродак, але адзінай мэтай цывілізацыі з'яўляецца развіццё чалавека*

*Э. Флайяна*

### На тым тыдні

•12 лютага ў Нацыянальнай бібліятэцы Рэспублікі Беларусь адбылася чарговая акцыя ў гонар 200-годдзя нашага земляка Напалеона Орды, якое шырока адзначаецца ў краіне.

На гэты раз выдавецтва «Беларусь» і Нацыянальная бібліятэка прэзентавалі факсімільнае выданне альбома з малюнкамі Н. Орды, якія знаходзяцца ў сховішчах бібліятэкі, а таксама CD з ягонымі малюнкамі і тлумачальнымі тэкстамі да іх.

На прэзентацыі выступілі тыя, хто спрычыніўся да гэтай падзеі: укладальнікі, выдаўцы, Нацыянальная камісія Рэспублікі Беларусь па справах ЮНЕСКА, Міністэрствы культуры і інфармацыі, ГА «Беларускі фонд культуры».

На прэзентацыі старшынёй Беларускага фонду культуры Уладзімірам Гілепам была агучана ідэя Іванаўскага раённага аддзела культуры і зробленыя ім захады па аднаўленні сядзібы Ордаў і стварэнні ў ёй мемарыяльнага музея.

•20 лютага ў музейна-выставачным комплексе гісторыка-культурнага музея-запаведніка «Заслаўе» адбылося адкрыццё выставы-прэзентацыі кнігі «Патаемнае наіўных мастакоў Беларусі». Артыкул пра кнігу можна прачытаць у «КГ» № 6 за люты 2007 года.





# У памяць пра паўстанцаў

***10 лютага, калі хрысціяне ўсходняй традыцыі адзначаюць бацькоўскую (памінальную) суботу, берасцейская моладзь з ТБМ імя Ф. Скарыны ўзгадвала выдатных продкаў, лёс якіх звязаны з Прыбужжам. З гэтай мэтай была зладжана вандроўка ў м. Дамачава (непадалёку ад Берасця) для ўшанавання ўгодкаў пачатку Вызвольнага паўстання 1863–1864 гг. (1 лютага) і дзень нараджэння яго кіраўніка Кастуся Каліноўскага (2 лютага).***

У Дамачаве знаходзіцца адзіны ў рэгіёне помнік паўстанцам Каліноўскага. Вядома, што 14 траўня 1863 г. атрад пад кіраўніцтвам Стасякевіча, які налічваў каля 300 чалавек, прыняў бой каля Чэрска, за некалькі кіламетраў ад Дамачава. Помнік паўстанцам-касінерам быў пастаўлены ў Дамачаве ў міжваенны час каля касцёла і ўяўляе сабой каменны трохметровы крыж.

Па запрашэнні берасцейскай моладзі ў касцёле Св. Антонія ў Дамачаве беларускі грэка-каталіцкі святар Андрэй Буйніч адслужыў малебен за беларускі народ, пасля якога ўсе прысутныя адспявалі рэлігійны гімн «Магутны Божа». Гісторыкамі быў праведзены экскурс ў дзеі паўстання на Берасцейшчыне.

Старшыня парафіяльнага камітэта касцёла Св. Антонія сп. Яўген Гамзюк распавёў, як ён спрычыніўся да выратавання помніка паўстанцам ад знішчэння ў сярэдзіне 1960-х. Справа ў тым, што касцёл ў тыя часы ўжо зачынілі і перарабілі на кінатэатр. Зразумела, што ні помнік-крыж, ні статуя Ісуса Хрыста, што таксама была ля касцёла, не пасавалі да савецкай атэістычнай ідэалогіі. Пасля таго, як скінулі статую Хрыста, спадар Гамзюк пайшоў да мясцовых улад і папярэдзіў, што калі яны знясуць крыж, то ён напіша ліст Булганіну (тагачаснаму міністру абароны), бо «гэты крыж з'яўляецца помнікам воінам і без дазволу ваенных нельга яго зносіць». Пасля гэтага помнік вырашылі не чапаць і таму ён захаваўся да нашых дзён.





Пасля малебна ў касцёле да помніка паўстанцам былі ўскладзены кветкі і запалены лампадкі.

У Дамачаве ўдзельнікі вандроўкі наведалі школьны музей. Акрамя розных цікавых экспанатаў у музеі ёсць стэнд, прысвечаны беларускаму каталіцкаму святару П. Татарыновічу, дзе прадстаўлены яго творы. Ён быў не толькі святаром, але і пісьменнікам, перакладчыкам, публіцыстам, выдаўцом, рэдактарам, стваральнікам і дырэктарам Беларускай секцыі Радыё Ватыкана. Татарыновіч быў адным з тых, хто актыўна падтрымліваў адраджэнне Уніі ў Заходняй Беларусі ў 1920–1930-я гг. Вядома, што ксёндз Пётр Татарыновіч служыў у Дамачаве да 1932 г. Магчыма, што ён і спрычыніўся да ўсталявання помніка паўстанцам Каліноўскага.

*Павел ДАЙЛІД,*
*студэнт-гісторык*
*БрДУ імя А.С. Пушкіна,*
*г. Брэст*

# Выніковы дакумент

## Міжнароднай канферэнцыі, прысвечанай 200-годдзю Напалеона Орды «Напалеон Орда: жыццё, творчасць, мастацкая спадчына» (Мінск, 15–16 лютага 2007 года)

**Удзельнікі канферэнцыі,** арганізаванай Інстытутам мастацтвазнаўства, этнаграфіі і фальклору імя К. Крапівы Нацыянальнай акадэміі навук Беларусі, Нацыянальнай камісіі Рэспублікі Беларусь па справах ЮНЕСКА, абмеркаваўшы ўклад Напалеона Орды ў культуру Беларусі, Польшчы, Літвы, Украіны, Францыі, азнаёміўшыся з новымі матэрыяламі аб яго жыцці і дзейнасці, вопытам захавання і прапаганды музычнай, мастацкай, архітэктурнай, дакументальнай, навуковай, літаратурнай спадчыны ў краінах, якія былі прадстаўлены на канферэнцыі – Беларусі, Літве, Польшчы, Украіне, Францыі,

**адзначаюць** важную ролю ЮНЕСКО ў справе захавання і выкарыстання культурнай спадчыны;

**канстатуюць** актуальнасць вывучэння, захавання і выкарыстання творчай спадчыны Напалеона Орды;

**прызнаюць неабходным развіваць** міжнароднае супрацоўніцтва і больш цесную каардынацыю дзейнасці па выяўленні і ўвядзенні ў навуковы і культурны ўжытак матэрыялаў, звязаных са спадчынай Напалеона Орды, у прыватнасці, шляхам выкарыстання новых інфармацыйных тэхналогій;

**разглядаюць** у якасці прыярытэтных наступныя накірункі дзейнасці па вывучэнні і прапагандзе творчай спадчыны Напалеона Орды:

1) здзяйсненне ва ўсіх прадстаўленых на канферэнцыях краінах даследчыцкіх праграм па вывучэнні музычнай, мастацкай, архітэктурнай, дакументальнай, літаратурнай спадчыны Напалеона Орды;

2) стварэнне міжнароднага савета па захаванні і выкарыстанні творчай спадчыны Н. Орды;

3) падрыхтоўку і публікацыю навуковых манаграфій і навуковых дапаможнікаў аб жыцці і творчасці Н. Орды;

4) развіццё навукова-даследчыцкіх аўдыё-візуальных і музейных праграм па захаванні творчай спадчыны Напалеона Орды;

5) стварэнне фондавых запісаў музычных твораў Н. Орды;

6) вызначэнне пры дапамозе адпаведных навуковых і творчых структур сумесных праектаў супрацоўніцтва;

7) рэгулярны абмен вынікамі даследчыцкіх праграм;

8) арганізацыю выстаў, канцэртаў;

9) распрацоўку і ўкараненне турыстычных маршрутаў;

10) правядзенне міжнародных пленэраў;

**ухваляюць** вопыт правядзення навукова-практычных канферэнцый, семінараў па абмену вопытам у краінах, прадстаўленых на канферэнцыі, сумесных публікацый па пытаннях захавання і выкарыстання культурнай спадчыны;

**звяртаюцца** з просьбай да Міністэрства культуры Рэспублікі Беларусь і Брэсцкага аблвыканкама ініцыяваць распрацоўку канцэпцыі аднаўлення і музеефікацыі месцаў жыцця і дзейнасці Н. Орды;

**звяртаюцца** таксама з просьбай да Мінскага, Брэсцкага, Пінскага гарвыканкамаў вывучыць магчымасць наданне назвы (перайменавання) вуліц у гэтых гарадах імя Н. Орды;

**звяртаюцца** з просьбай да Брэсцкага аблвыканкама ініцыяваць прапанову аб прысуджэнні імя Н. Орды Палескаму дзяржаўнаму універсітэту;

**звяртаюцца** з просьбай да Брэсцкага аблвыканкама таксама разглядзець рукапіс манаграфіі аб жыцці і дзейнасці Н. Орды і вывучыць магчымасць яе публікацыі;

**прымаюць** рашэнне апублікаваць матэрыялы канферэнцыі і накіраваць іх у асноўныя бібліятэчныя ўстановы краін, прадстаўленых на канферэнцыі;

**звяртаюцца** з просьбай да беларуска-польскай кансультацыйнай камісіі па справах гісторыка-культурнай спадчыны ўключыць у парадак дня яе пасяджэнняў абмеркаванне пытанняў, звязаных з захаваннем і выкарыстаннем спадчыны Н. Орды, у прыватнасці, магчымасці публікацый арыгіналаў малюнкаў, якія захоўваюцца ў музеях Польшчы, Літвы, Украіны і Беларусі;

**выказваюць падзяку** Сакратарыяту ЮНЕСКО, Нацыянальнай камісіі Рэспублікі Беларусь па справах ЮНЕСКО, Міністэрству культуры Рэспублікі Беларусь, Нацыянальнай акадэміі навук Беларусі за арганізацыю канферэнцыі;

**звяртаюцца** з просьбай да ЮНЕСКО, іншых міжнародных структур і надалей аказваць садзейнічанне краінам-удзельніцам канферэнцыі ў здзяйсненні нацыянальных праграм і рэгіянальных праектаў па захаванні культурнай спадчыны.

# І на чужыне пачуваліся беларусамі

***Сёння ў нас ужо адсутнічаюць важкія падставы для наракання на дэфіцыт літаратурных крыніц пра жыццё беларускай паваеннай эміграцыі. Самымі рознымі шляхамі паступалі і паступаюць яны ў краіну, прычым разам з раней апублікаванымі трапляюцца і зусім свежанькія. Ёсць і ў самой метраполіі аўтары, якія ахвотна і плённа займаюцца даследаваннем дадзенай праблемы, маюць па ёй дастатковую колькасць цікавых і змястоўных публікацый. Дзякуючы гэтаму, чытач можа ў комплексе пазнаёміцца з жыццём беларускай дыяспары, а не толькі якім-небудзь адным – няхай сабе і вельмі важным, актуальным – напрамкам.***

Аўтара гэтых радкоў асабліва цешыць пільная ўвага творчых людзей паваеннай эміграцыі да асвятлення практыкі выхавання і адукацыі маладых пакаленняў, якія ўступалі ў жыццё ў чужым, зусім новым для іх культурна-моўным асяроддзі, дзе вельмі лёгка было назаўжды згубіць сваю беларускасць. Каб не адбыцца такой трагедыі, прагрэсіўнае кола беларускай эміграцыі стварыла даволі дзейсную сістэму адукацыі дзяцей, максімальна наблізіўшы яе да ўзроўню нацыянальнай, хаця працаваць даводзілася ў вельмі складаных пасляваенных сацыяльна-палітычных, этнакультурных умовах, да таго ж яшчэ ўдалечыні ад Бацькаўшчыны.

З беларускіх педагогаў-эмігрантаў той цяжкай пары старанный працай, вялікай адказнасцю за ўзгадаванне дзяцей у нацыянальным духу вызначаўся Святаслаў Коўш, чалавек надзвычай складанага лёсу. Застаецца невядомым год яго нараджэння, затое маюцца іншыя патрэбныя звесткі: нарадзіўся ў сям'і беларускага грамадска-палітычнага і царкоўнага дзеяча Аляксандра Коўша (расстраляны гестапаўцамі за ўдзел у выратаванні яўрэяў), пасля далучэння ў верасні 1939 года Заходняй Беларусі да БССР працаваў завучам сярэдняй школы ў Стаўбцоўскім раёне, у гады акупацыі служыў у органах мясцовай адміністрацыі і, нарэшце, стаў старшынёй Клецкага раёна. Добра ведаючы, што гэтага ніяк не даруе савецкая ўлада, ён улетку 1944 года разам з многімі падаўся на захад. Спачатку ў нямецкім горадку Ватэнштэце быў за камендант беларускага лагера для перамешчаных асоб, а затым яшчэ і выкладаў у заснаванай тут беларускай гімназіі імя Максіма Багдановіча (у 1947/1948 навучальным годзе, калі амаль увесь яе педагагічны калектыў пакінуў лагер, гімназія стала насіць імя Францішка Багушэвіча). Вось гэтаму, размешчанаму на землях Нямеччыны лагеру беларускіх уцекачоў, і прысвяціў С. Коўш сваю кнігу «Беларускі Лагер у Ватэнштэт. Альбом – Гістарычная Даведка». Упершыню яна пабачыла свет у 1981 годзе ў адным з амерыканскіх прыватных выдавецтваў і па зразумелых прычынах заставалася невядомай нашаму чытачу. А шкада, бо ў кнізе пераканаўча абгрунтоўваецца неабходнасць стварэння нацыянальнай школы ў любых, самых экстрэмальных умовах, чаго ўладныя структуры Беларусі толькі ў рэдкія гады прытрымліваліся, што ўсяляк ігнаруюць яны і на сучасным этапе.

Пасля заканчэння Другой сусветнай вайны не адразу прыйшло шчасце да людзей. Неверагодна цяжка даводзілася здабываць яго самавыгнанніцам з Беларусі. «Мы, – піша С. Коўш, – апынуліся расцярушанымі ў чужым моры, у нас не было лучнасці між сабой, мы амаль што не мелі людзей, ведаючых ангельскую мову, нам бракавала цывільнае адвагі, у нас не было сувязяў, не было прыяцеляў, але было шмат ворагаў». Становішча пачало патроху паляпшацца толькі пасля стварэння ўлетку 1945 года ў Ватэнштэце (англійская зона акупацыі) беларускага лагера для перамешчаных асоб, у чым, як у нікога іншага, вялікая заслуга С. Коўша. Паводле яго трапнага выразу, «Ватэнштэт – беларуская бежанская Мекка». Але, каб стаць такой, патрэбна было прыкласці вельмі многа стараннаў не толькі яго стваральнікам, але і самім жыхарам лагера. І яны паспяхова справіліся, прычым у даволі сціслы тэрмін, з вырашэннем гэтай нялёгкай задачы.

Сярод розных пабудоў грамадскага прызначэння першымі на тэрыторыі лагера з'явілася праваслаўная царква (набажэнства вялося па-беларуску), народны дом, у якім ужо з надыходам «восені пачалі ладзіць імпрэзы: пастаноўкі, канцэрты, жывыя газеткі, даклады, дыскусіі і забавы». Несумненна, сапраўдным гонарам жыхароў гэтага лагера стала адкрыццё ў першы ж год яго існавання беларускай пачатковай школы. Наведвала яе толькі 6 вучняў. З красавіка 1946 года пачалі выходзіць

*Кароткі слоўнік*
# краязнаўча-прававой тэрміналогіі
*беларускай старажытнасці*



***(Пачатак у № 3 за 2005 г.)***

**УКОЛ** – павіннасць сялян у ВКЛ па ўтрыманні дзяржаўных замкаў і сажалак у належным стане.

**УЛАДАЛЬНІЦКІЯ І ЧЫТАЦКІЯ НАДПІСЫ НА ВЫДАННЯХ СТАТУТА 1588 года**. Як вядома, гэты канстытуцыйны дакумент, што з'явіўся ў найбольш поўным і дасканалым варыянце, неаднаразова перавыдаваўся і дапаўняўся. Кожнае выданне мела на той час немалы тыраж – часамі больш за 1,5 тыс. асобнікаў (агульны не менш за 10 тыс.). У выданнях 1614 і 1619 гг. пазначалася, што ўсе папярэднія кнігі разыйшліся, і гэта вымушае друкароў пачаць новыя іх выпускі. Цікавасць да Статута была выклікана найперш тым, што многія насельнікі, установы як ВКЛ, так і за яго межамі, жадалі вывучыць дзяржаўныя законы і карыстацца імі ў паўсядзённай дзейнасці. Адпаведна, многія чытачы рабілі на вокладках, тытульных лістах ці асобных старонках свае водгукі. Вывучэнне іх дае магчымасць прасачыць за ўзроўнем тагачаснай прававой культуры.

Надпісы, экслібрысы, пачынаючы з дачынення да іх канцлера Л. Сапегі – першага афіцыйна адказнага за выданне Статута ВКЛ 1588 г. – вывучалі такія вядомыя даследчыкі беларускай даўніны, як С. Ліндэ, І. Даніловіч, І. Лапо, М. Тапольская і інш. Калі хто з чытачоў мае намер больш падрабязна азнаёміцца са зместам і характарам надпісаў, экслібрысаў, з прозвішчамі і пасадамі надпісантаў, то адрасуем яго да выдання «Статут Вялікага княства Літоўскага. 1588» (Мінск: «"Беларуская савецкая энцыклапедыя" імя Петруся Броўкі», 1989) і зазірнуць у раздзел «Энцыклапедычны даведнік» на старонкі 537–538.

**УЛАДЫКА** – вышэйшы духоўны сан у ВКЛ (архіерэй, мітрапаліт). Былі таксама ўладыкі дворныя – часовыя памочнікі епіскапа, архіепіскапа ці мітрапаліта.

**УЛАНЫ** (з польск., ад турэцкага хлопец ці яшчэ па-беларуску хлапчына, дзяцюк) – від лёгкай кавалерыі. У ВКЛ уланы былі эмігрантамі з Залатой Арды, якія ўцякалі адтуль у час крывавых міжусобіц і знаходзілі прытулак на Беларусі. Тут складалі асобнае харуства (ваеннатэрытарыяльныя адзінкі) на правах экстэрытарыяльнасці (г.зн., мелі пэўныя прывілеі: недатыкальнасць асобы і жылля, вызваленне ад падаткаў ці змяншэнне іх і інш.). Яны жылі сваімі купкамі сярод беларускага люду, мелі свае аўтаномныя суполкі. Уланскае харуства, утворанае паводле саслоўных адзнак, было галоўным сярод іншых татарскіх харустваў. У вопісе войска ВКЛ 1528 г. уланы разам з татарскімі князямі былі вылучаны ў асобны атрад. У XVI ст. лёгкаконныя атрады ўланаў фармаваліся і ў Польшчы.



*Бітва на гравюры XVII стагоддзя*

---

часопісы «Шляхам жыцьця» (рэдактар Хведар Ільяшэвіч) і «Скаўт» (спецыяльна для дзяцей). Вельмі хутка лагер у Ватэнштэце стаў галоўным асяродкам беларушчыны ў англійскай зоне акупацыі.

Кіраўніцтва лагера паклапацілася і пра самых маленькіх яго жыхароў. Ужо на першым годзе знаходжання ў гэтым куточку нямецкай зямлі тут запрацаваў дзіцячы садок. Наведвала яго 17 хлопчыкаў і дзяўчынак. Далей іх стала значна больш. А ў пачатковай школе ў 1947/1948 навучальным годзе, лік дзяцей перавысіў за 200.

Папаўненне лагера новымі людзьмі, сярод якіх было нямала дзяцей старэйшага школьнага ўзросту, інтэлігенцыі, у тым ліку і педагагічнай, прывяло да стварэння гімназіі імя Максіма Багдановіча. Першы выпуск яна зрабіла ў сакавіку 1947 года. Некаторыя выпускнікі паступілі на вучобу ў вышэйшыя навучальныя ўстановы розных краін Еўропы. У 1947/1948 навучальным годзе, калі дырэктарам гімназіі стаў Уладзімір Сенька (да гэтага кіраваў ёю Пануцэвіч), яна налічвала 80 вучняў і 10 настаўнікаў. Па ініцыятыве вучняў старэйшых класаў наладзілі выпуск насценнай газеты «Кліч». У першым жа нумары рэдакцыя так вызначыла свае задачы: «Перш за ўсё праз нашу газэтку мы ўзмацняем нашую гімназію, бо мы будзем старацца праз яе лепш наладжваць нашае школьнае жыцьцё, выкараняць недахопы ў нашай працы, дапамагаць адзін аднаму ў здабываньні ведаў, пашыраць свой кругазор. Навука таксама зьяўляецца зброяй у адраджэньні народу і ў ягоным змаганьні за сваю незалежнасьць. Таму мы павінны з усёй пільнасцю і ўвагай адносіцца да сваёй працы ў школе...». Такой шчырай адданасці роднай беларускай справе закінутых на чужыну школьнікаў нельга не пазайздросціць. Сучасная беларуская дыяспара, істотна папоўненая новымі эмігрантамі, не можа гэтым пахваліцца.

Жыхароў лагера, як нішто іншае, вельмі радавалі сустрэчы з беларускімі паэтамі, асабліва калі прыязджалі Наталля Арсеннева і Масей Сяднёў. Сярод прысутных на такіх сустрэчах заўжды было многа школьнай моладзі.

Незабыўным стала выступленне 30–31 жніўня 1947 года Беларускага тэатра эстрады пад мастацкім кіраўніцтвам кампазітара Міколы Куліковіча (Шчаглова). Акрамя беларускіх народных песень і танцаў, прысутным паказалі і больш складаныя творы ў выкананні оперных спявачак Б. Ганчарэвіч і Н. Куліковіч. Таленавітай мастачкай слова паказала сябе канферансье Ірэна Жылінская. Гэтаму папулярнаму на эміграцыі мастацкаму калектыву нехта пад крыптонімам П.З. даў такую адзнаку ў артыкуле, змешчаным у часопісе «Шляхам жыцьця» (жнівень 1947 г.): «Беларускі тэатр эстрады выконвае вялікую нацыянальную місію сярод беларускай эміграцыі ў Нямеччыне. Ён патрапіў прытарнаваць сваю праграму да вымогаў і запатрабаваньняў беларускіх высяленцаў, якія праз мастацтва натхняюцца каханьнем да свайго роднага, верай у сьветлае заўтра. Гэтае роднае западае глыбока ў душу слухача і трапляе ў самыя яе глыбіні».

У тых жа месцах знаходжання перамешчаных асоб, дзе не знайшлося нацыянальна самасвядомых, здольных арганізатараў з ліку беларусаў; нашыя суайчыннікі траплялі ў польскія, рускія, украінскія лагеры, часта парываючы гэтым самым усялякую сувязь са сваёй этнічнаю прыналежнасцю.

Адзначу, што С. Коўш, акрамя таленту добрага арганізатара, здольнага педагога, меў яшчэ схільнасць да паэтычнай дзейнасці, якая служыла яму надзейным мастком для непарыўнай сувязі з Бацькаўшчынай. Нездарма толькі яна і апявалася ў яго вершах. Зроблены таксама пераклады паасобных месцаў, найцяснейшым чынам звязаных з Беларуссю, з твораў Адама Міцкевіча.

У кнізе С. Коўша прыводзяцца малавядомыя звесткі пра паэта, гісторыка, грамадска-культурнага дзеяча Хведара Ільяшэвіча (загінуў 6 лістапада 1948 года ў аўтамабільнай катастрофе ў Ватэнштэце). Яго роля ў запанаванні беларускага духу ў лагеры Ватэнштэт надзвычай вялікая. Беларускай гімназіі лагера Ватэнштэт дужа пашчасціла, што выкладчыкам яе быў там шчыра адданы Бацькаўшчыне педагог. Скаўцкі бюлетэнь штандару «Гарц» за снежань 1948 года даў такую характарыстыку Х. Ільяшэвічу: «Ён быў жывой ахвярай на ахвярніку Бацькаўшчыны. Усе свае найлепшыя пачуцьці, усю невычарпальную энэргію аддаваў Беларусі, якую высьніў у сваіх юнацкіх снох, якая паланіла яго васількамі ў жытох незабыўных радзімых палеткаў. Яна вабіла яго сваім дзявочым хараством. Яе, апетую жаўрукамі ў паднябесьсі, нёс ён у чужыну і аб ёй сьпяваў песьні».

Ніхто і ніколі не падлічыць, колькі такіх людзей, як Хведар Ільяшэвіч, шчыра ўлюбёных у сваю маці – Беларусь, закончылі зямное жыццё на чужыне. Мы ўсё яшчэ неяк нясмела, з аглядкай па баках, гаворым і пішам пра тых, хто ўлетку 1944 года, ратуючыся ад савецкага суда, з вялікім болем у сэрцы зняўся з роднага котлішча і падаўся на захад. Сярод іх быў зусім нязначны працэнт тых, хто заслугоўваў строгага пакарання.

Беларускі след у Нямеччыне пакінуў у першыя пасляваенныя гады не толькі створаны нашымі суродзічамі лагер у Ватэнштэце. Такія калоніі існавалі і ў іншых населеных пунктах гэтай краіны. Верыцца, што надыдзе час, і беларусы абавязкова ўсталююць у тых месцах памятныя знакі. І першай павінна паклапаціцца пра гэта беларуская дыяспара ў Нямеччыне. Як пабагацее Беларусь, усталюецца прымірэнне паміж сіламі, што ў перыяд нямецкай акупацыі стаялі на процілеглых баках блакады, да Ватэнштэта, несумненна, выкажа зацікаўленне грамадскасць Стоўбцаў і Клецка, з якімі нямала звязана ў жыцці С. Коўша.

Пасля чатырохгадовага кіравання беларускім лагерам Ватэнштэт С. Коўш разам з сям'ёй падаўся ў ЗША. Там, акрамя рэлігійнай, грамадска-палітычнай, займаўся яшчэ і літаратурнай дзейнасцю. Найбольш вядомыя яго творы тае пары – «Русалчына балада», «На дарогах вайны».

Апісанае вышэй – гэта ўсяго толькі невялічкі фрагмент з жыцця беларускіх самавыгнанцаў на чужыне. Яго нельга не ведаць беларусам метраполіі, у чым ім добра могуць дапамагчы краязнаўцы. У краіне не знайсці аніводнага раёна, з якога праклятая вайна, нямецкая акупацыя не вырвалі і не закінулі б хоць каго-небудзь з яго жыхароў удалечыню ад роднага дома. Лёсы іх – гэта таксама нашая гісторыя, якую трэба вывучаць і ведаць. Шкада, што ў абсалютнай бальшыні гэта не стала правілам і для гісторыка-дакументальных хронік гарадоў і раёнаў Беларусі «Памяць».

***У заключэнне хачу падкрэсліць, што з матэрыялаў кнігі С. Коўша вынікае вельмі важная для ўсіх часоў выснова: куды б лёс не закінуў з нашага краю чалавека, ён павінен заставацца беларусам. Зразумела, яшчэ больш важна быць сапраўднымі беларусамі ў сябе дома, на якіх сёння такі вялікі дэфіцыт, за што трэба «зняць шапку і падзякаваць» установам адукацыі і культуры, афіцыйным сродкам масавай інфармацыі. Яны нясуць вялікую адказнасць перад краінай, што яе сённяшнія эмігранты, як правіла, вызначаюцца крайне нізкай нацыянальнай самасвядомасцю і зусім няздольныя стварыць у сваім асяроддзі нешта хоць збольшага падобнае на беларускае жыццё. А хацелася б, каб і сёння ў беларускай дыяспары былі людзі кшталту Святаслава Коўша, Хведара Ільяшэвіча, мелася ахвота і па-за роднай Бацькаўшчынай жыць яе культурна-моўнымі традыцыямі.***

***Леанід ЛЫЧ,***
***доктар гістарычных навук, прафесар***

---

# Загадкі роду Малевічаў

Публікацыя Ігара Малевіча ў «Краязнаўчай газеце», прысвечаная радаводу знанага мастака-супрэматыста Казіміра Малевіча, не толькі ўразіла, але і заінтрыгавала. Змястоўныя сямейныя сведчанні аб лёсе некалькіх пакаленняў шляхецкага роду Малевічаў ды аналітыка аўтара апублікаванага матэрыялу сапраўды не могуць пакінуць абыякавым. Акрамя таго, што ў ім маюцца новыя звесткі пра Казіміра Малевіча, надрукаваныя яго пляменнікам, наводзіць на думку аб патрэбе пошуку слядоў яшчэ аднаго Малевіча, магчыма, бацькі мастака-філосафа.

Справа ў тым, што ў 1907 годзе ў «Вестях императорской Российской Академии наук» С. Малевічам быў апублікаваны збор беларускіх народных песень, сабраных якраз у мікрарэгіёне, апісаным І. Малевічам як радавая мясціна Малевічаў, – на Капыльшчыне. Публікацыя С. Малевіча была выдадзена асобнай кніжкай, без расшыфроўкі крыптоніма «С». Мабыць, тое не зусім выпадкова. Кнігу выпусціла высокая афіцыйная ўстанова. Выпусціла ў той час, калі буяў казённы рускі патрыятызм, і высоўвацца з каталіцкім імем «Севярын» у афіцыйным выданні, асянённым царскім імем, не выпадала з-за, так бы мовіць, паліткарэктнасці.

Імя «Севярын» – імя бацькі мастака Казіміра Малевіча. Мо і не зусім сярмяжна будзе дапусціць, што збіральнік і публікатар беларускага песеннага фальклору, які наўмысна ці міжволі схаваў сваё поўнае імя, і быў бацькам сусветна вядомага мастака з занядбанага ў гістарычных аналах беларускага шляхецкага роду.

А які далейшы лёс С. (Севярына?) Малевіча? Пасля кнігі «Белорусские песни» (1907) не сустракалася яго імя ў друку аж да 1924 года. Толькі ў 1924 годзе ў народазнаўчым польскім часопісе «Lud», які ў гэты час выходзіў у Львове, з'явіўся фальклорна-этнаграфічны артыкул С. Малевіча «Batleem na Białej Rusi» з пазнакай, што інфармацыя запісана ад К. Федзька, жыхара Нясвіжа. Зноў жа імя аўтара публікацыі не расшыфравана. Трэба думаць, што публікатар матэрыялу пра беларускую батлейку той самы, якому сучасныя фальклarysты абавязаны яго самавітым песенным зборнікам 1907 года. А тое, што сваёй апошняй публікацыяй азваўся аж у Львове, міжволі наводзіць на думку, ці не падаўся пасля рэвалюцыйнай завірухі сціплы фалькларыст-этнограф С. Малевіч за мяжу, у Польшчу, каб засцерагчыся ад магчымай экспрапрыяцыі не толькі сваіх нейкіх фальварка або хутара, а і самой жывой душы.

Магчыма, дзесь у львоўскіх архівах яшчэ сягоння можна адшукаць нейкія скупыя звесткі пра фалькларыста С. Малевіча, біяграфія якога – белая пляма ў гісторыі беларускай фалькларыстыкі. Мо расшыфраванае імя яго дадасць нейкі штрых да гісторыі Малевічаў, што ў свой час разляцеліся ў свет з радавога гнязда на Капыльшчыне.

***Арсень ЛІС,***
***доктар філалагічных навук***








# 2007: Год Слова Купалы і Коласа

*(Працяг. Пачатак у № 3–7)*

**1904–1906 гг.** Я. Купала сустракаецца з Ядвігіным Ш. (сапраўднае Антон Лявіцкі; 1869–1922), які вучыўся ў Маскоўскім універсітэце, але адкуль у 1890-м быў не толькі звольнены за ўдзел у адстойванні студэнцкіх правоў, але і арыштаваны, зняволены ў турму. Ды там, у вязніцы, пачаў сваю літаратурную дзейнасць (1891) перакладам на беларускую мову апавядання «Сігнал» таленавітага, але рана загінулага рускага пісьменніка У. Гаршына. У 1892-м напісаў самастойны твор (камедыю «Злодзей», якая была забароненая да пастаноўкі, а рукапіс яе знішчаны). Ён, зразумела, не мог не сказаць маладзейшаму Я. Купалу, што цярпеў, пакутаваў у царскіх умовах і мужна чакаў 1906 года, каб толькі на 37 годзе жыцця надрукаваць сваё першае апавяданне. Безумоўна, такая высакародная пазіцыя старэйшага калегі не магла станоўча не паўплываць на Я. Купалу, што ён, да слова, з падзякай зазначае ў лісце за 1927 год да не раз ужо названага ў нашых публікацыях Л. Клейнбарта.

**1905 г., восень.** Каб пракарміцца самому і памагчы сям'і, Я. Купала просіцца фактычна чорнарабочым на бровар Сёмкава Мінскага павета (за 16 км ад Мінска).

**1905–1906 гг.** Перад гэтым пазнаёміўшыся з творчасцю выдатнага ўкраінскага паэта Т. Шаўчэнкі, ён пачынае свае першыя пераклады з яго (вершы «Пажоўкнуў ліст... Прыгаслі вочы», «Думка», «За думаю дума роем вылятае»). Пазней зазначыць, што Т. Шаўчэнка змоладу быў для яго адным з самых любімых паэтаў.

**1906 г., люты.** Я. Купала засвойвае жанр паэмы і першую спробу называе «Зімою». У маі ў сувязі са стварэннем у Пецярбургу выдавецкага таварыства «Загляне сонца і ў наша аконца» піша прысвечаны яму верш. Тыя суполка і выдавецтва (1906–1914) былі першымі пасля доўгага перапынку легальнымі беларускамоўнымі з'явамі, якія на самаахвярнай аснове ўтварыў Б. Эпімах-Шыпіла (1859–1934; мовазнавец і выдавец, які пазней станецца натхнёным апекуном Купалавага генія, падрыхтуе да друку ягоную першую кнігу, запросіць жыць у яго і працаваць у сталіцы, зберажэ многія яго рукапісы). Выдавецтва «Загляне сонца і ў наша аконца» выдасць 38 кніг агульным накладам больш за 100 тысяч асобнікаў на кірыліцы і лацінцы. У гэтым ліку – падручнікі «Беларускі лемантар, або Першая навука чытання» К. Каганца, «Першае чытанне для дзетак беларусаў» Цёткі і інш. Выпускала падпісную серыю «Беларускія песняры», навукова-папулярныя і публіцыстычныя брашуры, паштоўкі з краявідамі Беларусі, партрэты беларускіх пісьменнікаў.

**Верасень.** Я. Купала горача вітае выхад першай легальнай газеты на беларускай мове «Наша доля» вершам «Нашай долі».

**Лістапад.** Ён склаў да друку змест свайго першага вершаванага зборніка «Жалейка», пра што паведаміла газета «Наша Ніва» ад 24 лістапада. Але і ва ўмовах некаторага паслаблення ўціску царскіх улад у адносінах да беларускай мовы і літаратуры шлях рукапісу да выдання асобнай кнігай будзе зацягнуты. І з-за таго, што аўтар – чалавек і таленавіты, і непакорлівы царскаму рэжыму.

**На працягу 1906-га.** Створана паэма «Нікому».

**1905–1907 гг.** Напісана паэма «Адплата кахання». У лісце да Л. Клейнбарта ў 1928 г. Я. Купала паведамляў, што ў гэты перыяд ён напісаў нямала самых розных твораў, паслаў іх самым розным людзям і выданням. Частка твораў захавалася. Некаторыя рэчы былі забракаваныя па цэнзурных меркаваннях, а некаторыя былі прытрыманыя абачлівымі адрасатамі, і ў выніку згубіліся.

**1906–1907 гг.** Не перастаючы дбаць пра кавалак хлеба, уладкоўваецца на працу памочнікам вінакура ў Яхімоўшчыне Вілейскага павета. З вясны 1907-га працуе памочнікам вінакура ўжо ў маёнтку Дольны Сноў Навагрудскага павета Мінскай губерні.

**1907, 11 мая.** У «Нашай Ніве» змяшчае верш «Касцу». Лічыцца, што гэта – першая публікацыя паэта ў беларускамоўным друку.

**1907, лета.** Я. Купала сустракаецца з прафесарам Львоўскага універсітэта І. Свянціцкім, які пасля гэтага зацікавіцца маладой беларускай літаратурай пачатку XX стагоддзя і будзе пастаянна трымаць у полі зроку і неаднаразова змяшчаць на яе свае водгукі.

**На працягу года.** Напісана паэма «Калека».

## Мова наша – наш анёл

Дзіця – усяму пачатак і ўсяму працяг. А, як вядома, добры пачатак – вечны пачатак. Чалавек вырастае па меры таго, як растуць яго дзеці. Краіна квітнее па меры таго, як расце і развіваецца яе маладое пакаленне, фарміруецца яго патрыятычна-грамадзянскі патэнцыял, адшліфоўваюцца маральна-духоўныя якасці кожнага і ўсіх. У працэсе адраджэння духоўнасці настаўнікам беларускай мовы і літаратуры належыць адна з галоўных роляў, бо яны з'яўляюцца носьбітамі традыцый і культуры беларускага народа, яны праваднікі паміж вучнямі і тымі моўна-літаратурнымі сродкамі, якімі забяспечылі нас нашы продкі.

Мне вельмі пашанцавала, што я вучуся ў гімназіі-каледжы № 24. Менавіта ў гэтай навучальнай установе мне давялося сустрэць сапраўдных настаўнікаў, якія самаадданa выконваюць сваю працу. Яны робяць усё магчымае, каб вучням было цікава вывучаць іх прадметы, каб была магчымасць павысіць сваю культуру, інтэлект, духоўнасць.

Асаблівую ўвагу я б хацела спыніць на сваім класным кіраўніку і настаўніцы беларускай мовы і літаратуры Людміле Аляксандраўне Афанасьевай. Яе добрыя вочы, ласкавы позірк, разумныя парады не адзін раз дапамагалі мне і маім аднакласнікам вырашыць нейкія пытанні і ў вучобе, і ў адносінах паміж сабой. Яна вельмі любіць беларускую мову і аддана стараецца перадаць гэтую любоў нам.

Сваёй задачай настаўнікі нашай установы лічаць не толькі ўзброіць вучняў глыбокімі і трывалымі ведамі, але і сфармаваць у навучэнцаў духоўна-маральныя якасці, выхаваць патрыятызм, развіць творчае мысленне, пазнавальную актыўнасць, уменне самастойна карыстацца рознымі крыніцамі інфармацыі, арыентавацца ў падзеях сённяшняга дня. Такім чынам, на ўроках яны вучаць і адначасова выхоўваюць, прывіваюць любоў да роднай мовы і культуры.

На нас, і асабліва на моладзь, вельмі моцна ўплывае сённяшні практычны, рацыянальны па сваім характары час, ствараючы дэфіцыт пачуццяў. Гэта прыводзіць да многіх бед, і мы ўсё больш пераконваемся, што чалавек не можа абысціся без душэўнасці і даверу, гневу і спачування, непрымірымасці і міласэрнасці. Павышэнне духоўна-маральнай культуры маладога пакалення – адна з самых надзённых задач настаўнікаў. Народнае, мудрае, спадчыннае – вось што ў першую чаргу дапаможа маладым душам не проста стаць відушчымі, але і надзяліць неацэнным дарам прадбачання. Чым раней дзіця адчуе непаўторнасць роднай мовы, пачне само ёю карыстацца, тым лягчэй яно будзе ўспрымаць каларыт беларускай культуры. Відавочна, што місія настаўніка беларускай мовы і літаратуры – надзвычай адказная, бо менавіта ён павінен дапамагчы сённяшняму пакаленню маладых беларусаў асэнсаваць сваё месца і прызначэнне ў бясконцым ланцугу быцця народа, далучыць да яго спрадвечныя погляды на дабро і зло – на ўсё тое, што складае сутнасць нашага этнасу.

Таму мне вельмі прыемна было даведацца, што ў 2006 годзе мой класны кіраўнік і настаўніца беларускай мовы і літаратуры Людміла Аляксандраўна Афанасьева разам з настаўнікамі нашай гімназіі Ірынай Міхайлаўнай Місуновай, Таццянай Уладзіміраўнай Цыркун, Кацярынай Аляксандраўнай Галахавай прыняла ўдзел у праекце «Духоўна-маральнае, патрыятычнае і грамадзянскае выхаванне асобы сродкамі беларускай мовы і літаратуры» ў рамках праекта «Мы адной табе належым, Беларусь мая!», арганізаванага Камітэтам па адукацыі Цэнтральнага раёна. Вельмі прыемна было даведацца, што настаўнікі нашай гімназіі дастойна абаранілі гэты праект і былі названы лепшымі. За гэтым поспехам стаяць некалькі гадоў неадрыўнай і цяжкай працы. За час падрыхтоўкі настаўнікі беларускай мовы і літаратуры правodзілі сярод дзяцей апытанні, даследвалі, што мае каштоўнасць для вучняў, па наступных крытэрыях: чалавек, сям'я, праца, веды, культура, Айчына, зямля, мір, здароўе. Вывучалі многа спецыяльнай літаратуры.

Мэта праекта – распрацоўка сістэмы работы па выхаванні духоўна-маральнай асобы сродкамі беларускай мовы і літаратуры. «Лёс беларускай мовы карэнным чынам залежыць ад таго, ці стане яна роднай найперш у школе. А для гэтага трэба імкнуцца да таго, каб вучэбная дзейнасць школьнікаў на ўроках беларускай мовы і літаратуры была для іх асобасна-значнай, а не фармальнай», – такое меркаванне выказала Людміла Аляксандраўна, абараняючы праект.

Настаўніцы – удзельніцы праекта – выказалі ў сваёй працы стаўленне да роднай краіны і мовы. Напрыклад:

«Мы жывём у цудоўнай краіне, нам ёсць што шанаваць і любіць, чым ганарыцца» (К.А. Галахава).

«Беларуская зямля – захавальніца народа, які тут жыве. Беларускі край – у мінулым шматпакутная і гераічная зямля» (І.М. Місунова).

«Мова існавала даўно, а да нас з'явілася ў выглядзе анёла – прасіла памяці, цяпла, шанавання» (Т.У. Цыркун).

«Мы, настаўнікі беларускай мовы і літаратуры, у сваёй працы і творчых пошуках ажыццяўляем мары, ідэі, спадзяванні славутых сыноў Айчыны з надзеяй на тое, што побач з імёнамі вялікіх беларусаў мінулага з'явяцца імёны цяперашніх адкрывальнікаў нязведанага» (Л.А. Афанасьева).

І яны не памыляюцца. Творчыя зярняты залатыя прарастаюць у душах іх выхаванцаў. І сведчаннем гэтага з'яўляюцца выдадзеныя зборнікі вершаў Дзмітрыя Осіка, Рамана Казлова, Марыі Пронінай, Алены Борыс, Віктара Шаўцова, Аляксандры Трыч. Усе гэтыя маладыя паэты з'яўляюцца навучэнцамі гімназіі-каледжа № 24. Хочацца пажадаць ім поспехаў, і каб іх імёны ведалі як імёны знакамітых сучасных паэтаў.

***Настасся ХАДАСЕВІЧ,***
***вучаніца гімназіі-каледжа № 24,***
***г. Мінск***

*(Паводле газеты «Звязда» ад 2 лютага 2007 г.)*

## Якуб Колас і «Наша Ніва»

### (Успаміны)[1]

Мне ўжо 62 гады. Я належу да пакалення, якое адышло ў гісторыю. 90 працэнтаў маіх равеснікаў ужо скончылі зямную кар'еру. Я яшчэ на пару гадоў затрымаўся. Варта было б мне напісаць свой «кінематограф» на працягу якіх 35 гадоў для беларускай моладзі. Можа, і ўдасца гэта зрабіць перад смерцю.

[...] Ехаў я – раней, чым тое дзеялася, – у трэцім класе. Раптам увальваецца лапцяватая грамада беларусаў з Нёмана. Загналі плыты ў Коўну, едуць назад па Нёмане, каб ізноў гнаць дрэва. Мяне тады распірала, як кажуць цяпер, ад агітацыі; разгаварыўся скора, чытаў вершы Мацея Бурачка. Тады не было яшчэ ні Купалы, ні Коласа! Плытнікі з в. Мікалаеўшчыны. Гэта вёска дастаўляла не толькі «рачных ваўкоў», але і вучыцялёў народных, як м. Валожын – рабінаў. Мне гавораць: «А ў нас адзін настаўнік "смешна" чытае па-нашаму!»

Праз нейкі час быў у Менску з'езд вучыцялёў, на дачы на Камароўцы. На гэтым з'ездзе я спытаўся: хто тут з вас з Мікалаеўшчыны беларускія вершы фабрыкуе? Выходзіць лабаценькі, з чорнай маладзенькай бародкай. Від у яго быў не саўсім забіты семінарскай трафарэтнай вучобай.

Я павёў гэта жамчужнае зерне да Леаніда Канстанцінаўскага. Ветлівыя гаспадары, шыкарная вячэра. Мой вучыцель развярнуўся. «Но лишь божественный глагол до слуха чуткого коснётся, душа поэта встрепенётся, как пробудившийся орёл!» Хлапец пераабразіўся, вочы яго ззялі, твар адухатварыўся. Мілагучныя рыфмы спявалі ў яго.

Мы ўсе зразумелі, што перад намі – узыходзячая зорка беларускай паэзіі.

Браце Якубе! Можа, прачытаўшы гэта, ты ўспомніш нашу залатую моладасць і моладасць беларускага адраджэння і наш стары «губернский город» Менск. Можа, пішучы аб Табе, я, адышоўшы ад актыўнай работы, стары, ужо не ўмею трымаць нос па ветру і не ўсім дагаджу: не прывык я гэтага рабіць. Чуў твой голас, Якубе, праз радыё, чуў і гарачае прывітанне менскай публікі. Прайшоў Ты праз жыццё, зрываючы, як і маё пакаленне, мала кветак і многа церняў і турмы. Для мяне ўсё ж гэта гонар,

**Даведка.** *Аляксандр Уласаў – журналіст, дзеяч нацыянальна-вызваленчага руху. Нарадзіўся ў 1874 г. на хутары каля Радашковіч. Скончыў Тэхнічны інстытут у Рызе. Ён і браты Луцкевічы былі заснавальнікамі Беларускай Рэвалюцыйнай (Сацыялістычнай) Грамады, «Нашай Нівы» і многіх іншых арганізацый і выданняў. Удзельнічаў у падрыхтоўцы Усебеларускага кангрэса, ва ўтварэнні БНР. Пасля Рыжскага мірнага дагавора (1921) жыў у Заходняй Беларусі. Быў абраны паслом у Польскі сейм, працаваў у Таварыстве Беларускіх Школ (ТБШ). У 1939 г. быў арыштаваны, сядзеў у мінскай турме. У канцы чэрвеня 1941 г. расстраляны.*



[1] Урывак паводле публікацыі ў часопісе «Маладосць» № 11 за 1992 г., падрыхтаванай Б. Сачанкам. Упершыню ўспаміны былі надрукаваны ў часопісе «Калоссе» № 5(9) за 1936 г. (Вільня).

# Вучоба ў пасляваеннай Вілейцы

***Увазе чытачоў я прапаную ўспаміны Рагнеды Аляхновіч (у дзявоцтве Грышкевіч). Яе лёс, як і лёс бацькі Вінцэнта Жук-Грышкевіча, звязаны з Вілейшчынай. Дакладней, Рагнеда Вінцэнтаўна – выпускніца Вілейскай беларускай сярэдняй школы.***

***Сяргей МАКАРЭВІЧ, г. Вілейка***

З таго часу, калі я паступіла ў 7-мы клас Вілейскай беларускай сярэдняй школы восенню 1944 года, мінула 62 гады. Вучыліся мы ў будынку былой польскай гімназіі на вул.Савецкай. У гэтым жа будынку месцілася і руская дзесяцігодка[1]. Праз год нас перавялі на вул. 17 Верасня, дзе зараз знаходзіцца школа-інтэрнат.

Дырэктарам нашай школы быў Аляксандр Іванавіч Стасевіч, яго намеснікам і выкладчыкам рускай мовы і літаратуры – Васіль Сіліч Картэль. Беларускую мову і літаратуру выкладала Любоў Фёдараўна (прозвішча не памятаю), нядаўняя выпускніца ВНУ. Маладымі настаўнікамі былі і нашыя класныя кіраўнікі: географ Варвара Якаўлеўна Азарэвіч і фізік Павел Барысавіч Міхайлаў. Варвара Якаўлеўна і зараз жыве ў Вілейцы на Школьным завулку. Добрыя веды матэматыкі даў нам пажылы, спрактыкаваны выкладчык Антон Іванавіч Касабуцкі, біялогіі – Ніна Іванаўна Аляксандрава. Гісторыю выкладаў былы франтавік, інвалід Васіль Рыгоравіч Смірноў. Урокі ён праводзіў даволі суха, але прадмет свой ведаў выдатна. Толькі нам было дзіўна, што пра гісторыю Беларусі ён нічога не расказваў. Такая была тагачасная праграма. Мелі мы і такі прадмет як ваенная падрыхтоўка, якую праводзіў Іван Сільвестравіч Рымкевіч. Пазней ён стаў дырэктарам гарадской СШ № 3. Мы вучыліся разбіраць і збіраць вінтоўку, хадзіць строем, здаваць рапарт і г.д. Любімым нашым настаўнікам быў выкладчык хіміі Вадзім Львовіч Бяляўскі. Выхаванец яшчэ даваеннага Віленскага універсітэта, ён імпанаваў нам не толькі шырынёй ведаў, але і высокай культурай, уменнем зазірнуць у душу кожнага вучня.

Напачатку ў новым будынку нашай школы не было нават электрычнасці. Глыбокай восенню апошнія ўрокі праводзіліся пры свечках. Сядзелі за непафарбаванымі сталамі, потым з'явіліся парты. Не было кабінетаў фізікі, хіміі, біялогіі, практычныя заняткі праходзілі ў класе. Па большасці прадметаў не было падручнікаў, і мы старанна запісвалі тлумачэнні настаўнікаў. У адным класе са мной вучыліся юнакі і дзяўчаты ад 1926 па 1931 года нараджэння, бо не ўсе падчас акупацыі маглі наведваць школу. У нашым 8-м класе было больш за 30 вучняў. Але ў 9-м засталося толькі 16: не кожны змог засвоіць школьную праграму і здаць экзамены, якія здавалі кожны год. А скончылі школу толькі 13 маіх аднакласнікаў. Усе паступілі ў ВНУ, сталі інжынерамі, лекарамі, настаўнікамі, вучонымі.

Вялася ў школе і так званая грамадская работа. Настаўнікі праводзілі палітінфармацыі, агульныя вучнёўскія сходы, вечары да гадавіны Кастрычніцкай рэвалюцыі, памяці Леніна. Аднойчы кіраўніцтва школы паспрабавала арганізаваць вечар пытанняў і адказаў. Свае цыдулкі з пытаннямі мы павінны былі кідаць у спецыяльную скрыню. Але гэты вечар так і не адбыўся. Бо ці ж можна было ў тыя часы даваць тлумачэнні на запыты такога кшталту: «Раскажыце, калі ласка, пра Залаты век на Беларусі». Многія ў час акупацыі вывучалі гісторыю роднага краю па падручніках Вацлава Ластоўскага, таму задавалі такія пытанні. Справа, вядома, магла скончыцца ў засценках НКУС, але нашыя педагогі ёй ходу не далі.

Часта ініцыятарамі пазашкольных мерапрыемстваў былі вучні. Мы рыхтавалі літаратурныя, навагоднія вечары, ставілі спектаклі. Найбольш запомніліся пастаноўкі па камедыях Вінцэнта Дуніна-Марцінкевіча «Пінская шляхта» і Віталя Вольскага «Несцерка». Ролю Кручкова ў «Пінскай шляхце» выконваў Васіль Гатоўка, Куторгі – Лявон Бурак, Грышкі – Міхал Барташэвіч, Марысі – аўтарка гэтых радкоў. Мне давялося іграць і Насцю ў камедыі Віталя Вольскага, Міхалу Барташэвічу – Юрася, Лявону Бураку – Несцерку. У масоўках (шляхта, кірмашоўцы) удзельнічаў увесь клас. Касцюмы, дэкарацыі – усё рыхтавалі самі. Нязменным нашым рэжысёрам быў Вадзім Львовіч Бяляўскі. Нашыя спектаклі карысталіся поспехам, на іх збіралася ўся школа.

Вядома, жыццё не было ні лёгкім, ні простым: апошні год вайны, пасляваенная разруха... Але маладосць брала сваё. Складанасці і цяжкасці нас толькі яднаялі. І пасля заканчэння школы мы не гублялі кантактаў адзін з адным, тым больш, што амаль усе вучыліся ў мінскіх ВНУ. А з 1968 года, калі было 20-годдзе нашага выпуску, мы сталі кожныя пяць гадоў ладзіць сустрэчы, каб адзначыць чарговую «круглую дату». Збіраліся неафіцыйна на беразе Віліі або ў рэстаране. Апошнія нашыя сустрэчы былі ў доме Надзеі Маліноўскай, якая стала лекарам-педыятрам і многія гады лекавала вілейскіх дзетак.

Летам 2003 года мы адзначылі 55-ю гадавіну нашага выпуску. Надыйшоў час, калі на нашых сустрэчах загучалі добрыя словы ў памяць аб тых аднакласніках, якія пакінулі гэты свет...

На адной нашай сустрэчы быў Вадзім Львовіч. Ён прынёс нам цудоўны букет белых ружаў са свайго кветніку. А праз год настаўніка не стала. Яго і ўсіх выкладчыкаў мы ўспамінаем з павагай і ўдзячнасцю.

***Рагнеда АЛЯХНОВІЧ***

[1] Пазней было дабудавана левае крыло. Сёння ў будынку размяшчаецца Беларускі тэхнікум бізнесу і права пры Беларускім інстытуце правазнаўства (Вілейская філія).



*На фота Аляксея СЮДАКА: былы будынак школы па вул. Савецкая*

што я першы Цябе расшукаў – не праз звесткі ў газетах, а праз лапцяватых мужыкоў! Я – твой хросны бацька. Нагародай мне было б, каб што-небудзь зрабіць для «Каласкоў» Беларусі, дзе я дажываю свой век! З маёй, цяпер нябожчыцы, радашкоўскай гімназіі выйшаў малады паэт Танк, і многа іх яшчэ выявілася б пры добрых варунках асветы...

Помню, як я ў Менску хадзіў у турму да Коласа. За гэты самы вучыцельскі з'езд ён дастаў тры гады. Помню, недзе пад Брэсцкім вакзалам, у завулку, драўляную турму, тыпу павятовай турмы, досыць патрыярхальную. «Старшой» Пікулік, чалавек дабрадушны, убачыўшы мяне з дарамі прыроды, гаварыў: «Пазавіце Кінстінтіна!» З нутра турмы выходзіць неяк баязліва наш паэт. Сядаем на лавачцы каля варот, «па-сямейнаму» неяк сядзяць Пікулік і стражнік...

Я шмат разоў адведваў людзей у турмах. Ніколі не трэба пытацца: «як маешся?» а найлепш расказаць што-небудзь вясёлае, анекдоты. Іх любіў слухаць і Пікулік.

Калі К. Міцкевіч адседзеў турму, Іван Луцкевіч, каторы ведаў увесь край, – у кожным закавулку ён меў знаёмых, – намовіў адну сімпатычную старую паню Т. Гардзялкоўскую (кабету тыпа Э. Арэшчыхі) зрабіць беларускую школу тайную, і Якуба зрабілі вучыцелем яе. Ён быў першы беларускі вучыцель першай беларускай школы. Як гэта ўсё было там, я не памятаю.

***Аляксандр УЛАСАЎ***

*(Заканчэнне будзе)*



***Ілюстрацыя Васіля ШАРАНГОВІЧА да выдання паэмы «Новая зямля» Якуба КОЛАСА на трох мовах. Ахвочыя могуць набыць цудоўна аздобленае выданне ў ГА «Беларускі фонд культуры» (тэл. 234-42-03 і 283-28-26)***

*(Працяг. Пачатак у № 3–7)*

Вось так! Непатрэбныя розум, адукаванасць, спачуванне народу і клопат пра яго, любоў да беларускай гісторыі, мовы і культуры, штодзённая някідкая, але патрэбная для духоўнасці праца нават з ліку не толькі мясцовых, але і прыезджых прыстойных людзей! А такім быў і паўзабыты сёння (апроч Нясвіжа і Коласаўскага музея ў Мінску) натхняльнік Я. Коласа да беларускамоўнай творчасці Фядот Андрэевіч Кудрынскі. Гонар яму і сёння!

## З аўтабіяграфій

*(пра сям'ю, дзяцінства, навучанне ў Нясвіжскай настаўніцкай семінарыі і інш.)*

За свае амаль 74 гады жыцця і з іх амаль 50 працы ў літаратуры Якуб Колас напісаў нямала варыянтаў (кароткіх і падрабязных) аўтабіяграфій. Але чамусьці яны нават не патрапілі ў яго 14-томны Збор твораў, што выйшаў у Мінску ў 1972–1978 гадах. Але шэсць з іх пабачыла свет у біябібліяграфічным даведніку «Якуб Колас. Да 100-годдзя з дня нараджэння», выдадзеным ужо ў ня блізкім 1983 годзе тагачаснай Дзяржбібліятэкай тыражом 1 000 экземпляраў, што, зразумела, даўно ўжо зрабіла яго бібліяграфічнай рэдкасцю. Першая аўтабіяграфія, змешчаная ў названым даведніку, напісана Я. Коласам у 1913 годзе па просьбе С. Венгерава (1855–1920) для яго «Критико-биографического словаря русских писателей и ученых» і адраўлена аўтарам з Пінска ў Пецярбург 24 лютага, шостая – у 1956-м, у год ягонай смерці. Аўтабіяграфіі, напісаныя Я. Коласам у розных перыядах і ўзросце, падкрэсленыя ў іх пэўныя моманты і дэталі, дапамагаюць глыбей адчуць, што і як у маладосці фармавала яго светаўспрыманне, цягу да мастацкага слова.

«Бацьку майму часта даводзілася пераязджаць з месца на месца. Гэта тлумачылася тым, што бацька мой быў сумленны панскі слуга, і ў інтарэсах службы яго пераводзілі, кіруючыся прынцыпам: "На добрага каня кладуць і добры воз"».

«Сваё дзяцінства я добра памятаю з таго часу, калі бацька служыў на трэцім месцы (Акінчыцы, Ласток і з 1890 года ў Альбуці. – **Г.Д.**). Жылі мы адзінока, і дзяцінства маё прайшло ў адзіноцтве. Малюнкі навакольнай прыроды былі вельмі простымі і няхітрымі, але тым не менш яны моцна дзейнічалі на мяне і глыбока западалі ў душу».

«Я любіў сваю адзіноту. Яна развівала маю дзіцячую фантазію, я многа жыў у свеце мрояў і мары».

«У нас часта начавалі розныя людзі... Цэлымі вечарамі я слухаў іх апавяданні, у якіх раскрываўся для мяне новы свет разуменняў і ўяўленняў... Самы моцны ўплыў рабіў на мяне мой дзядзька па бацьку... Некаторыя казкі ён расказваў па некалькі дзён, на манер вядомай Шэхерэзады... Грамаце я навучыўся сам. Прыём, якім я вывучыў літары, не пазбаўлены некаторай арыгінальнасці... Я браў нейкую кнігу і, паказваючы літару, якая мне найбольш падабалася, пытаўся, як яна называецца... Потым для мяне і двух старэйшых маіх братоў быў наняты на зіму за 3 рублі «дарэктар», хлапчук, які скончыў народную школу. Дзве зімы я вучыўся дома, а потым у народнай школе».

*(Заканчэнне будзе)*

*Старонку вядзе пісьменнік Генрых ДАЛІДОВІЧ*







*Беларускія землі здаўна славіліся сваімі маляўнічымі пейзажамі, палацава-паркавымі ансамблямі, замкамі вялікіх магнатаў і велічнымі святынямі, будаванымі для праслаўлення Бога. Некалькі стагоддзяў таму іх было амаль немагчыма пералічыць: што ні паселішча, то старажытны касцёл, то панскі палац, было і шмат замкаў. На жаль, з-за шматлікіх войнаў і за часы панавання камуністычнай сістэмы ў нашай краіне было знішчана нямала помнікаў гісторыка-культурнай спадчыны. Хоць тыя часы і падзеі пакінулі непазбыўныя сляды ў гісторыі, але не ўсё было знішчана. Маўклівыя сведкі стагоддзяў яшчэ засталіся. Не трэба шукаць іх у чужых краях, калі даўнінная прыгажосць побач з намі, толькі трэба прыгледзецца і заўважыць яе.*

# Скарбніца прыгожага і ўзнёслага

Адно з такіх месцаў – старажытны касцёл Святой Ганны ў вёсцы Мосар Глыбоцкага раёна. Гэты куток райскай прыроды і сакральнасці нікога не пакіне без узрушэння. Шмат людзей бывае ў гэтым «раі на зямлі» штогод. І вернікі, і нявернікі – усе наведваюць гэтае старажытнае і прыгожае месца на Віцебшчыне. Некаторыя прыязджаюць штогод нават з-за мяжы, каб тут адпачыць душою.

Мястэчка Мосар было вядома з XVI стагоддзя. Першымі ўладальнікамі былі Дэспат-Зяновічы. У той час гэты род валодаў і Паставамі; потым маёнтак перайшоў да Валовічаў. Наступным уладальнікам быў род Далмат-Ісакоўскіх, калі ў 1639 годзе маёнтак, як пасаг, перайшоў да Пятра Карла Далмат-Ісакоўскага. Яго дачка Соф'я ў 1657 годзе ўступіла ў шлюб з Віктарам Канстанцінам Млечкам. Пасля іх дачка Канстанцыя шлюбавалася з Янам Уладзіславам Бжастоўскім, род якога валодаў маёнткам Мосар амаль да канца XIX стагоддзя. Найбольш выбітнай фігурай з гэтага роду быў граф Роберт, які ў 1775–1790-х пабудаваў рэзідэнцыяльны палац і са сваёй жонкай Ганнай Платэр фундаваў у 1792 годзе будаўніцтва парафіяльнага касцёла пад тытулам Святой Ганны – апякункі фундатаркі. А ў 1870-х гадах Мосар купіў вядомы род Пілсудскіх.

У XVIII – 1-й палове XIX стагоддзя ў Мосары дзейнічала уніяцкая царква.

Гэтая незвычайная мясціна як бы надзелена асаблівай ласкай. Адчуваецца тое, калі стаіш перад прыгожай мосарскай святыняй, пабудаванай у стылі неакласіцызму. Тут сапраўднае харастсва прыроды і тварэння чалавечых рук. Касцёл шмат перажыў: пабачыў і тры вайны, і спробы ператварыць яго ў царкву, а ў 1960–1980-х гадах яго і ўвогуле ледзь не зачынілі. Але ўсе пагрозы былі бяздзейсныя – храм дзейнічаў нават у часы Савецкага Саюза.





Перад касцёлам знаходзіцца капліца Маці Божай Вострабрамскай (яе пабудавалі ў 1996 годзе ксёндз-прэлат Юзаф Булька, пробашч парафіі) і старая званіца, перабудаваная ў 1931 годзе на каменную. На плошчы перад святыняй разбіты цудоўны парк з насаджэннямі кустоў і кветак, кампазіцыямі з камянёў і рэдкіх раслінаў. Пасярод плошчы ў 1990 годзе ўстаноўлена скульптура «Аплакванне Хрыста» – копія твора знакамітага мастака і скульптара Мікеланджэла.

Побач ёсць музей беларускай даўніны, у якім знаходзяцца цікавыя экспанаты. Далей за касцёлам ёсць 20 капліц з таямніцамі Святога Ружанца, ужо поўнага, з абвешчанымі 16 кастрычніка 2002 года Святым Айцом Янам Паўлам II таямніцамі Святла. Яны прывядуць нас да крыніцы. Яна існавала яшчэ да вайны, але з цягам часу мясцовасць забалоцілася, а крыніца знікла.

Дзякуючы намаганням ксяндза-пробашча Юзафа Булькі крыніца была знойдзена і цяпер яе крынічная вада зноў супакойвае людскія прагненні. Яна была ўрачыста асвечана Яго Экскцэленцыяй ксяндзом біскупам Уладзіславам Блінам – Ардынарыем Віцебскай дыяцэзіі. Многія людзі сведчаць, што вада адсюль мае лекавыя ўласцівасці. Гэтая асвечаная вада – ацаляльная, бо ўтрымлівае каштоўныя мінеральныя элементы.

З 1838 года ў мосарскім касцёле знаходзіцца мошчы Святога Юстына, рымскага мучаніка II стагоддзя. Гэтыя мошчы ў 1754 годзе былі прывезеныя графам Антонам Кошыцам, уладальнікам Старога Мядзеля, як дар Бенедыкта XIV у старамядзельскі касцёл. Потым дачка Кошыца Ганна перавезла іх у Мосар да сваякоў Бжастоўскіх. Па распараджэнні мінскага біскупа Тадэвуша Ліпскага, з 1838 года мошчы павінны знаходзіцца ў мосарскім касцёле. А Арцыбіскуп віленскай Архідыяцэзіі Рамуальд Яблжыкоўскі ў 1928 годзе спецыяльным лістом пацвердзіў прыналежнасць мошчаў святога Юстына мосарскаму касцёлу.

Таксама ў мосарскім касцёле знаходзіцца абраз Маці Божай Будслаўскай. Гэта не копія цудадзейнага абраза, але абраз, які быў напісаны ў эпоху барока як вольнае адлюстраванне вобразу Маці Божай Будслаўскай.

Асаблівай увагі заслугоўваюць парафіяльныя могілкі, дзе заўсёды пануе чысціня і дух сапраўднай пашаны да памерлых. На могілках узведзена 14 капліц са стацыямі Крыжовага шляху, якія называюць «Мосарскай кальварыяй».

Намаганнямі ксяндза-прэлата на гары быў устаноўлены 25-метровы крыж. Побач з касцёлам у год памяці Яна Паўла II была ўстаноўлена і першая ў Беларусі фігура гэтага слугі Божага.

Ксёндз-прэлат Юзаф Булька – сапраўдны святар, які клапоціцца не толькі пра духоўнае жыццё людзей, але і пра культуру беларускага народа, захоўваючы старадаўнія звычаі. Кожны год 24 чэрвеня ў парафіі адбываецца галоўнае парафіяльнае свята – фэст Святога Яна Хрысціцеля, які ўстанавіў Пій X у 1908 годзе. Кожны год на гэтае свята з'язджаецца шмат людзей, каб маліцца да Бога праз заступніцтва Святога Яна і Святога Юстына. У гэты дзень таксама праходзяць выступленні народных ансамбляў, праводзяцца гульні, а ўвечары – песні пры вогнішчы.

Вакол святыні пануе цішыня і спакой. І гэтае харство нясе таксама супакой і ўзнёсласць у людскія душы. Дзякуючы ксяндзу Юзафу – чалавеку вялікага сэрца і ўмелых святарскіх рук – была створана гэтая цудоўная мясціна на Глыбоччыне. Дакранулася яго рука не толькі ў Мосары, але і ў ваколіцах. Амаль каля кожнага касцёла, дзе працаваў ксёндз-прэлат, а таксама каля школаў і дзяржаўных установаў быў наведзены належны парадак і насаджана цудоўнымі кампазіцыямі расліны і кветкі. Праз дасканаласць прыроды ўдасканальваецца і чалавечая душа, імкнецца да высокага, да духоўнага. Тэрыторыя побач з кожнай арганізацыяй, домам культуры, школай ці іншай установай (лішне казаць пра касцёл ці царкву) павінна быць уладкавана: пароблены дарожкі, насаджаны кветкі ці дэкаратыўныя расліны.

– Чалавек, каб захацеў зайсці ўсярэдзіну, спачатку павінен захацець увайсці ў панадворак. І гэтая дэманстрацыя прыстойнасці звонку павінна выклікаць прыхільнасць і давер, – кажа ксёндз Булька.





***У наш час дэмаралізаванага свету вельмі патрэбныя такія святары, якія не ідуць на кампраміс з гэтым светам, а заклікаюць да сапраўдных ідэалаў маральнага і культурнага жыцця. Гледзячы на каштоўнасці нашай спадчыны, трэба задумацца, што б яны значылі без духоўнай спадчыны і традыцый нашага народа. Беларуская гісторыя стваралася стагоддзямі, шмат «прайшла» крывавым шляхам войнаў і падзелаў, але нашыя продкі здабылі і захавалі незалежнасць, ствараючы вялізны пласт беларускай культуры.***

*Аляксей ЮРКАЙЦЬ,*
*г. Паставы*
*Фотаздымкі Святланы ПРАКОФ'ЕВАЙ*

*Напэўна, няма для чалавека мясціны больш прывабнай, чым тая, дзе ён нарадзіўся. Тут кожнае дрэва, кожная рачулка, кожная сцежка, так як і ў маленстве, праз гады працягвае хваляваць і радаваць душу.*

*У адным з самых маляўнічых мясцін Беларусі – на Мядзельшчыне – нарадзіўся і я. Ласкавае сонца і пах свежаскошанай травы ў летнюю пару, свежы водар сасновага лесу, празрыстая роўнядзь азёр Нарач і Свір...*

# Таямнічы ход
## і магіла забальзамаванага

Як і выдатны беларускі паэт Максім Танк, з Мядзельшчыны паходзіць і мая бабуля Зінаіда Іванаўна Шыманэль. Цяпер яна жыве ў невялічкай вёсцы Засвір, што на ўзбярэжжы Свірскага возера. Пераважная большасць вяскоўцаў – гэта пенсіянеры. Яны заўсёды бадзёрыя і жыццярадасныя, працягваюць збірацца да каго-небудзь «на сяло», успамінаюць сваю маладосць і хваляцца ўнукамі.

Яшчэ адно месца, куды кожную нядзелю прыходзяць засвірцы – гэта касцёл. Ён – сімвал духоўнага жыцця вёскі. З ім звязана шмат цёплых успамінаў. Гэта адна з цудоўнейшых каталіцкіх святынь з багатай гісторыяй на Мядзельшчыне.

Троіцкі касцёл у Засвіры быў пабудаваны ў 1713–1714 гадах з цэглы па фундацыі Крыштофа і Ядзвігі Зяновічаў як храм ордэна кармелітаў. Збоку ад яго быў такі ж цагляны кляштар. У 1766 годзе пралат вілейскай капітулы Тамаш Зянковіч кансэкраваў святыню.

У 1812 годзе сядзіба была поўнасцю знішчана, а комплекс касцёла з кляштарам – абрабаваны французскім войскам. У 1864 годзе касцёл быўператвораны ў праваслаўны храм, кляштар закрыты. Нейкі час у будынку кляштара была школа для настаўнікаў царкоўна-прыходскіх школ. Толькі ў 1919 годзе касцёл зноў вярнулі католікам. Першым пробашчам Засвірскай парафіі пасля аднаўлення святыні стаў ксёндз Казімір Стаповіч (на той час вядомы паэт Казімір Сваяк). Але пасля Другой сусветнай вайны касцёл і кляштар перасталі дзейнічаць. Толькі ў 1994 годзе, дзякуючы намаганням ксяндза Войцеха Леманьскага, касцёл і частка кляштара, што далучаецца да яго бакавой апсіды, былі адноўлены.

Уражвае таксама і колькасць легенд, звязаных з гісторыяй пабудовы і дзейнасцю касцёла. Напрыклад, мясцовыя жыхары прыгадваюць, што ў скляпеннях святыні былі знойдзены рэшткі пахавання. Старажылы сцвярджаюць, што гэта было забальзамаванае цела фундатара касцёла. З гэтым яны нават звязваюць наступную гісторыю: фундатар у дзень свайго шлюбу ўзлез на званіцу святыні з келіхам шампанскага (магчыма, каб паказаць сваё каханне да жонкі), не змог утрымаць раўнавагі і зваліўся. Ёсць і іншы варыянт гэтай гісторыі: фундатар у дзень скานчэння будаўніцтва святыні ўзлез на шчыт вежы, каб паставіць крыж, але не ўтрымаўся і зваліўся долу. Няшчасная жонка дала загад на бальзамаванне цела свайго мужа. Цела забальзамавалі і змясцілі ў шкляную труну, якую паклалі пад касцёл. Цікавая легеда. Аднак, ці адпавядае яна рэчаіснасці?

У прынцыпе, забальзамаваны і сапраўды мог быць фундатарам: сацыяльная дыферэнцыяцыя, якая ўсталявалася ў грамадстве ў тыя часы (памешчык – селянін) знаходзіла адбітак і ў пахавальнай абраднасці. Князёў і феадалаў хавалі ў царкоўных сутарэннях, у фамільных капліцах (напрыклад, фамільныя скляпы Скірмунтаў у суседнім двары Шэметава), служыцеляў царквы – каля храмаў ці ў манастырах. Грамадскія могілкі даставаліся мяшчанам, рамеснікам і сялянам. Але ж фундатарам у Засвіры быў Крыштоф Зяновіч, які памёр у 1717 годзе (год не супадае ні з датай пабудовы святыні, ні з датай вяселля Крыштофа з Сюзаннай Пшэздзецкай (1683)).

Паводле сведчанняў спадара Франака Глухоўскага, чалавек, які доўгі час знаходзіўся ў склепе касцёла, меў адсечаныя да каленяў ногі. Можа быць, што пры падзенні са званіцы касцёла мужчына зламаў ногі – і іх прыйшлося ампутаваць. Але тады больш верагодным будзе факт, што пры жыцці мужчына быў інвалідам, бо адразу пасля ампутавання ног працэс бальзамавання немагчымы. Ды і сам гэты працэс на тыя часы быў вельмі рэдкім і дарагім. Ды і спецыялістаў па такой справе яшчэ трэба было пашукаць...

Дарэчы, вядомы таксама той сумны факт, што пасля Другой сусветнай вайны (калі касцёл знаходзіўся ў занядбаным стане і ўваход у скляпенні быў свабодны) цела трывожылі, выносілі з-пад касцёла і здзекваліся з яго – як шматлікія «турысты» (яны выцягвалі цела з труны, садзілі і фатаграфаваліся з ім, што, вядома, згубна ўздзейнічала на стан цела), так і мясцовыя аматары спіртных напояў, якія бралі забальзамаваны труп і насілі па хатах: прынясуць якой-небудзь адзінокай бабульцы, кінуць пад хату і патрабуюць, каб пазычыла на бутэльку (калі бабулька адмаўляла – «весялуны» пагражалі пакінуць труп беднай бабцы). Ёй нічога не заставалася, як даць п'янтосам на паўлітра. Магчыма, гэтыя цяганні пашкодзілі рэшткі таго чалавека.

У 1980-я гады ксёндз Станіслаў Кучынскі змог правесці перапахаванне цела няшчаснага на мясцовых могілках. Цяпер магіла, у якой пахаваны забальзамаваны мужчына, дагледаецца. На ёй усталяваны каталіцкі крыж з памятным надпісам. Усе ўваходы ў падвал касцёла, пасля яго аднаўлення ў 1994 годзе, былі замураваныя цэментным растворам.

Яшчэ адна легенда звязана з падземным ходам, які быццам бы ёсць пад касцёлам. Чуткі пра гэта распаўсюдзіліся пасля таго, як некаторыя



смельчакі, якія лазілі ў скляпенні касцёла паглядзець на цела мужчыны, пачалі расказваць пра тое, што ў склепе не хапае паветра, з-за чаго яны не змаглі прайсці ўглыб. Была зроблена выснова, што склеп вялікі і доўгі. Узніклі меркаванні, што падземны ход з гэтага склепа вядзе на могілкі і на другі бок возера Свір. Насамрэч, дакладна гэтага ніхто не ведае. Канчаткова разабрацца ў гэтай сітуацыі зможа, напэўна, толькі спецыяльны прыбор геарадар, які прымяняецца ў геадэзіі для даследавання і вывучэння рэльефа мясцовасці, але гэта паслуга каштуе вельмі дорага. Між тым легенда пра падземны ход абрастае ўсё новымі падрабязнасцямі. Мясцовы жыхар Тадэуш Худы ўспамінае, што калі на могілках ён з мужчынамі аднойчы капаў яму для магілы, то натрапіў на нейкую сцяну, колер якой быў вельмі падобны да колера кляштара...

*Ілья ЛАПАТО, студэнт журфака БДУ*



**«КГ» звярнулася да гэтай тэмы невыпадкова. Яшчэ ў 70-х гг. мінулага стагоддзя, працуючы ў Беларускім дзяржаўным музеі Вялікай Айчыннай вайны, я краем вуха чуў аб тым, што подзвіг капітана Гастэлы пад Радашковічамі ў першыя дні вайны – зусім не подзвіг. Быў, казалі, іншы капітан, які загінуў там са сваім экіпажам. Ён і павінен быў стаць Героем, а Гастэла стаў Героем выпадкова.**

Чуткі хадзілі, а экскурсаводы музея апавядалі пра подзвіг капітана Гастэлы так, як належыць, бо тое, што было зацверджана на афіцыйным узроўні, як «священная корова», было недатыкальным.

Праўда, з цягам часу, расказваючы пра подзвіг Гастэлы, экскурсаводы пачалі ўспамінаць подзвіг яшчэ аднаго капітана – Маслава (з таго ж самага авіяцыйнага палка), які загінуў там жа і ў той жа дзень – 26 чэрвеня 1941 года. Потым у экспазіцыі музея з'явіўся і фотапартрэт лётчыка. На месцы падзення самалётаў праводзіліся шматлікія экспедыцыі як вышэйзгаданым музеем, так і іншымі афіцыйнымі ўстановамі: ваенкаматам, сельсаветам, апошняя – пошукавым батальёнам Міністэрства абароны Рэспублікі Беларусь. У выніку – месца падзення самалёта і месца пахавання экіпажа А. Маслава даказана і пацверджана. Месцы падзення самалёта М. Гастэлы і пахавання экіпажа невядомы.

Таму мы звярнуліся да ўспамінаў сведкаў тых даўніх падзей, да краязнаўцаў вакольных вёсак, якія кропля да кроплі на працягу 60 гадоў збіралі і захоўвалі звесткі пра подзвіг двух капітанаў – Гастэлы і Маслава. Мы смела ўжываем слова «подзвіг» да ўчынкаў Гастэлы і Маслава, бо гэта вынікае з наступнага матэрыялу. Да таго, ж лятаць на самалётах ДБ-3 (дальні бамбардзіроўшчык), на якіх выконвалі заданне лётчыкі 207-га АП, – самалётах няхуткасных, непаваротлівых, малаабароненых ад знішчальнікаў ворага – ужо быў подзвіг.

А цяпер слова даем збіральніку матэрыялаў і аўтару артыкула Дзмітрыю Мікалаевічу Дуброўскаму.

***Уладзімір ГІЛЕП***




*Добры дзень, шаноўная рэдакцыя «Краязнаўчай газеты»! З вялікай павагай да Вас звяртаецца ваш пастаянны чытач Дзмітрый Мікалаевіч Дуброўскі, студэнт 3-га курса гістарычнага факультэта БДУ. Нарадзіўся я ў Мінску, але ўсё маё дзяцінства прайшло ў вёсцы Мярковічы Бяларуцкага сельскага Савета Лагойскага раёна. Паралельна са сваёй вучобай і працай я займаюся вывучэннем гісторыі былой Бяларуцкай воласці і свайго радаводнага дрэва (ужо дайшоў да 1730 г.).*

*Гэты матэрыял быў падрыхтаваны з дапамогаю Валерыя Антонавіча Багушэвіча з в. Мярковічы і ўспамінаў мясцовых жыхароў. Валерый Антонавіч з 60-х гг. мінулага стагоддзя займаецца гісторыяй экіпажа М. Гастэлы, але ўсе спробы давесці праўду да людзей і расказаць, як яно было на самой справе, не ўдаліся. Праз вашу газету, я спадзяюся, мы зможам гэта зрабіць.*

У гады Вялікай Айчыннай вайны было здзейснена шмат подзвігаў. Пра адныя ведае ўвесь свет, пра іншыя – вельмі нямногія. Пра подзвіг герояў, якія зараз ляжаць у безымяннай магіле ў вёсцы Бяларучы Лагойскага раёна, мне і хочацца расказаць. Сведкамі тых падзей былі мясцовыя жыхары вёсак Мацкі (Мінскі р-н), Мярковічы (Лагойскі р-н), Дзякшняны (Маладзечанскі р-н).

Пры пахаванні загінулага экіпажа ў в. Дзякшняны, за 180 метраў ад дарогі, яшчэ 26 чэрвеня 1941 г. мясцовыя жыхары ведалі: хаваюць экіпаж Маслава. З Міністэрства абароны СССР ад 17 чэрвеня 1951 г. прыйшоў адказ: «Месца, дзе загінуў капітан Гастэла, не высветлена».

**Архівы паведамляюць**: 26 жніўня 1941 г. з аэрадрома Бароўскае а 9 гадзіне выляцела звяно капітана Маслава. Яго задачай было бамбіць нямецкія калоны ў раёне Радашковічы–Маладзечна. Капітан сустракае нямецкія колоны каля в. Дзякшняны Маладзечанскага раёна за Радашковічамі. Праз дзве гадзіны пасля вылету групы капітана А.М. Маслава туды ж адпраўляецца група з 2 самалётаў капітана Гастэлы (экіпаж М. Гастэлы: ён сам, штурман А. Бурдзенюк, стралок-радыст А. Калінін, штурман Р. Скарабагаты). Ён сустракаецца з немцамі ўжо каля в. Мацкі Мінскага раёна. Такім чынам, месца баёў двух груп раздзяляла адлегласць у 25–30 км, ды і да таго часу, калі Гастэла прыняў бой, экіпажа Маслава ўжо не было ў жывых.

**В.А. Багушэвіч расказвае**: Ліст лётчыка Скарабагатага (экіпаж Гастэла) быў знойдзены на месцы падзення самалёта 26 жніўня 1941 г. у в. Мярковічы Лагойскага раёна. Ён быў адрасаваны жонцы. Лётчык піша, каб яна закупіла «апрунішка» (вопратку) для дзіцяці. Як вядома, лейтэнант Рыгор Мікалаевіч Скарабагаты 26 чэрвеня 1941 г. знаходзіўся на борце самалёта Мікалая Гастэлы і менавіта ягоны ліст усе жыхары в. Мярковічы памятаюць і па сённяшні дзень. На вялікі жаль, ліст не захаваўся. Яго прынёс у вёску Іван Бако, падлетак, які і захоўваў гэты ліст у сябе дома. У 1944 г. ён разам з сябрам і хлопчыкам-бежанцам са Смаленска, Ванькам, былі зверскі заколаты немцамі на ўскрайку лесу каля вёскі. Так гэты ліст і знік.

*(Працяг на стар. 8)*





*(Працяг. Пачатак на стар. 7)*

Пайшлі чуткі, што ў магіле Гастэлы экіпаж Маслава. У пачатку 1950-х гг. супрацоўнікі Музея гісторыі Вялікай Айчыннай вайны, шукаючы магілу Гастэлы, даведваюцца ад жыхароў в. Дзякшняны, што каля дарогі загінуў і пахаваны экіпаж Маслава, але самой магілы няма. У першыя ж дні вайны мясцовыя жыхары сабралі рэшткі лётчыкаў і пахавалі іх непадалёку ад самалёта, паставілі крыж. Немцы не перашкаджалі. А вайна скончылася, зямля адышла да калгаса. Старшынёю стаў Турэцкі. Ён загадаў заараць магілу – «калі кожнаму загінуламу зямлю аддаваць, краіна без хлеба застанецца». Так і зрабілі. Па рэштках лётчыкаў хадзілі трактары, бульдозеры, ганялі скаціну, і таму супрацоўнікі музея не маглі яе адшукаць. Але ў 1952 г. экіпаж Маслава ўсё ж быў з урачыстасцю перапахаваны ў скверы г.п. Радашковічы. На помніку – прозвішчы ўсіх членаў экіпажа Маслава.

Калоны нямецкай тэхнікі ўздоўж дарог Шапялі — Мацкі — Бяларучы

на Радашковічы
Мінскі раён
в. Шапялі
в. Мацкі
х. Мацкі.
Багністы
Яр
Багна
Назяна
в.Лясіны
в. Марковічы
Лагойскі раён
в.Бяларучы
на Мінск
на Лагойск

Але нехта, не ведаючы, дзе і як загінуў, дзе пахаваны экіпаж Гастэлы, пачаў сцвярджаць: «Гастэла не заслужана заняў месца Маслава». Яшчэ адзін «нехта», паддаўшыся на правакацыю, дае каманду перапахаваць экіпаж Маслава ў брацкую магілу на вясковых могілках.

Так гэтыя «нехта», у якіх ёсць, безумоўна, свае прозвішчы, заблыталі гісторыю подзвіга двух экіпажаў, аднапалчан, сяброў М. Гастэлы і А. Маслава, распусцілі чуткі пра быццам бы несапраўднае ўшанаванне М. Гастэлы на Беларусі.

**Як яно было.** Гэта былі два розныя баі, дзве розныя смерці экіпажаў у розны час. Два сябры, два капітаны, вылятаюць з аднаго і таго ж аэрадрома, на адно і тое ж заданне, у кожнага быў свой маршрут, свой вылет. Але іхні лёс так распарадзіўся, што смерць яны прынялі за штурвалам практычна ў адным і тым жа месцы, на адлегласці прыкладна ў 25–30 км адзін ад аднаго, з розніцай у дзве гадзіны. Адно іх аб'ядноўвае, радніць – абодва спрабавалі пераўтварыць у жыццё словы з Біблії: «Смертию смерть поправ».

Што тычыцца помніка ў г.п. Радашковічы, то, паводле афіцыйнай версіі, Гастэла і экіпаж згарэлі разам з нямецкімі цыстэрнамі. Яныператварыліся ў пыл, дым, і на зямлі нават няма пагорка на іхняй магіле. На маю думку, помнік Гастэлу мае месца быць і ён ёсць, паколькі гэты помнік з'яўляецца сімвалам гераічнасці і мужнасці не толькі экіпажаў Маслава і Гастэлы, але і ўсяго 207-га палка і іншых, якія ў жніўні 1941 г. абаранялі раён Радашковічы–Маладзечна. На Нямеччыне, у Берліне, у Трэптаў-парку, стаіць усім вядомы помнік. Правобразам паслужыў наш зямляк Лук'яновіч. Гэты помнік ўсе ўспрымаюць як даніну павагі жывым і памерлым, хто выратаваў свет ад карычневай чумы, і не больш таго.

**Зноў кажа В.А. Багушэвіч**: Хочацца звярнуць Вашу ўвагу на тое, што ўсе мае даследаванні рабіліся не прафесійна, таму што на той час я сам быў падлеткам. Раней я лічыў, што ў 1965 г. над в. Мацкі ў небе нічога ад 1941-га не засталося, але я глыбока памыляўся. Палаючы самалёт і смерць лётчыкаў засталіся ў сэрцах сведкаў. І толькі цяпер, аналізуючы іх успаміны, тых гады папрацаваўшы з «рыдлёўкай» на месцы падзення самалёта ў Мярковічах, не сцграшыўшы супраць праўды, з вялікай верагоднасцю магу сказаць, што на самой справе адбылося ў той жудасны дзень 26 жніўня.

***Дзмітрый ДУБРОЎСКІ***

*(Працяг будзе)*

# Сакавік

**1 – Фёдар Шмакаў** (1917), акцёр, рэжысёр – 90 гадоў з дня нараджэння.

**1 – Алесь Камароўскі** (1947), пісьменнік – 60 гадоў з дня нараджэння.

**3 – Бітва на Нямізе** (1067), у якой князь Усяслаў адстойваў незалежнасць Полацкай зямлі ад кіеўскіх князёў – 940 гадоў, першы ўспамін пра Менеск-Менск-Мінск.

**3 – Ян Цадроўскі** (1617, Салігорскі р-н – пасля 1682), грамадска-палітычны дзеяч ВКЛ, пісьменнік-мемуарыст – 390 гадоў з дня нараджэння.

**4 – Казімір Ельскі** (1782, Пухавіцкі р-н – 1867), скульптар, першы прафесар скульптуры на Беларусі – 225 гадоў з дня нараджэння.

**4 – Міхась Дубянецкі** (1927–1990), перакладчык і публіцыст – 80 гадоў з дня нараджэння.

**11 – Алесь Гарун** (Прушынскі; 1887–1920), беларускі пісьменнік, дзеяч нацыянальна-вызваленчага руху – 120 гадоў з дня нараджэння.



*Фотаэцюд Міколы ПІВАВАРА*

## 1 сакавіка – Дзень абароны дзяцей у надзвычайных сітуацыях

Пажары па прычыне дзіцячага свавольства не з'яўляюцца рэдкімі. Дзіця імкнецца спазнаць гэты свет, ён цікаўны і агонь яго прыцягвае. Цяпер не надта дзейсныя з'яўляюцца размовы аб тым, што трэба хаваць запалкі, не пакідаць дзяцей без нагляду. Задача цяпер, напэўна, у іншым – растлумачыць усю небяспеку, якую прыхоўвае ў сабе агонь. На вырашэнне яе накіраваны цэлы комплекс мерапрыемстваў, адным з якіх з'яўляецца Дзень абароны дзяцей у надзвычайных сітуацыях, які штогод праходзіць 1 сакавіка. У гэты дзень для навучэнцаў агульнаадукацыйных установ будуць праведзены розныя мерапрыемствы, накіраваныя на павышэнне падрыхтаванасці педагагічнага складу і навучэнцаў да хуткіх дзеянняў пры пагрозе ўзнікнення НС, трэніровачныя заняткі па выкарыстанні сродкаў індывідуальнай абароны, тэматычныя размовы і лекцыі па пытаннях бяспечнай жыццядзейнасці.

Паколькі асноўная задача органаў і падраздзяленняў МНС – абарона грамадзян і матэрыяльных каштоўнасцей, у Дзень абароны дзяцей супрацоўнікі Міністэрства па надзвычайных сітуацыях паедуць ва ўсе школы, гімназіі і інтэрнаты на сустрэчы з дзецьмі, каб расказаць ім аб сваёй працы, навучыць правільным дзеянням пры ўзнікненні НС прыроднага і тэхнагеннага характару, адказаць на пытанні і проста паразмаўляць з навучэнцамі. Нашы сумесныя намаганні павінны быць накіраваны на паўсядзённую прафілактычную працу з дзецьмі, каб калі не выключыць, дык хаця б звесці да мінімуму колькасць пажараў па віне дзяцей, пазбегнуць няшчасных выпадкаў і траўматызму.

***Вольга ХВАШЧЭЎСКАЯ,***
***інспектар ЦРАНС***

# Малая краязнаўчая энцыклапедыя

*(Пачатак у № 1 за 2003 г.)*

**ВЯЛІКАЯ БЕРАСТАВІЦА** – цэнтр Берастравіцкага раёна Гродзенскай вобласці за 63 км ад Гродна, за 10 км ад чыгуначнай станцыі Берастравіца на лініі Масты–Баранавічы, на аўтадарозе Гродна–Берастравіца–Ваўкавыск. На канец XX ст. было крыху больш за 6 тысяч насельнікаў.

У пачатку XVI ст. ёю валодаў наваградскі ваявода А. Хадкевіч, у XVII–XVIII стст. – Мнішкі, Патоцкія, Касакоўскія. На карце Т. Макоўскага (1613) пазначана як мястэчка Гродзенскага павета. З 1921-га ў складзе Польшчы, з верасня 1939-га – у БССР, вёска Крынкаўскага раёна. З чэрвеня 1941-га па 17 ліпеня 1944-га пад акупацыяй нямецка-фашысцкіх захопнікаў, якія там і ў раёне загубілі 634 чалавекі. З 20 верасня 1944 г. гарадскі пасёлак. Ёсць прадпрыемствы харчовай прамысловасці. Помнікі архітэктуры – касцёл кармелітаў (1615), касцёл (пач. XX ст.), заезны двор (2-я пал. XIX ст.).

**Ад рэдакцыі.** Паважаныя цяперашнія 15 падпісчыкаў «КГ» па Берастравіцкім раёне! Дзякуй, што вы сябруеце з намі і, аправедна, прапагандуеце выданне і сярод іншых. Хацелася б, каб вы часцей і больш пісалі нам. Як пра гісторыю, так і пра сённяшні дзень краязнаўства ў вашым краі.

**«ВЯЛІКАЯ ВАЙНА»** 1409–1411 гадоў – вайна ВКЛ і Польскага каралеўства з Тэўтонскім ордэнам за ўладанне Жамойцю, Памор'ем, Новай Маркай і Добжынскай зямлёй. У бітве, якую гісторыкі назавуць генеральнай і якая адбылася 15 ліпеня 1410 г. каля населеных пунктаў Грунвальд і Таненберг (цяпер Альштынскае ваяводства, Польшча), польскія войскі на чале з каралём Ягайлам і войскі ВКЛ на чале з вялікім князем Вітаўтам (каля 40 тысяч чалавек, а можа, і больш) у глыбокай тайне злучыліся ў раёне Казініц і рушылі на сталіцу крыжакоў Марыенбург (Мальбарк), але лепшыя рыцары з Германіі, Англіі, Францыі, Швейцарыі, Чэхіі і іншых краін здолелі апярэдзіць і заняць лепшыя ўзгорказвыя пазіцыі для бою. Ён пачаўся атакай 1-й лініі крыла Вітаўта і змешчаных на яе правым флангу татар саюзнага яму хана Джэлал-ад-Дзіна, якія адразу ж трапілі ў засады з ямамі і пад магутны гарматны агонь, пасля супраць іх накіравалася левае крыло крыжацкага войска. Нейкі час ішла роўная сеча, з падыходам новых крыжацкіх сіл з правага фланга Вітаўт аддаў загад сваім сілам адступіць. Першыя гэты любімы даўні прыём ужылі татары. Але гэта былі не панічныя ўцёкі, як тое апісалі Я. Длугаш і Г. Сянкевіч, а яшчэ загадзя прадуманы манеўр: калі нападаючыя крыжакі парушылі свой строй і пабеглі, як яны лічылі, дабіваць і рабаваць непрыяцеля, Вітаўтавы воі зноў сабраліся ў строй. Заставаліся на сваіх пазіцыях смаленскія палкі, у выніку чаго былі амаль цалкам знішчаны. 2-я і 3-я лініі войск Вітаўта стойка запынілі крыжацкі націск, якіх атакавала і 1-я лінія польскіх войск. А калі ў бітву ўступіла 2-я лінія іх войск, то пасля 6 гадзін жорсткага пабоішча крыжакі пачалі адступаць. Асцерагаючыся паражэння, магістр ордэна ўвёў у бой свае рэзервы, але яны пасля невялікага поспеху былі абкружаныя і знішчаныя. З многімі лепшымі еўрапейскімі рыцарамі загінуў і сам магістр, а рэшткі яго сіл выратаваліся толькі мітуслівымі ўцёкамі.

«Вялікая вайна» 1409–1411 гг. скончылася Торуньскім мірам 1411 г., паводле якога Жамойць і Добжынская зямля пакідаліся за саюзнікамі, а гарады і замкі ордэна, захопленыя ў час вайны, вярталіся ўладальнікам. Паражэнне падарвала магутнасць Тэўтонскага ордэна і спыніла яго агрэсію на працягу двух стагоддзяў на ўсход.

Газета зарэгістравана ў Міністэрстве інфармацыі Рэспублікі Беларусь. Рэгістрацыйнае пасведчанне № 2019 ад 19. 03. 2003 г.
Заснавальнікі: грамадскае аб'яднанне «Беларускі фонд культуры», вытворчае прыватнае унітарнае прадпрыемства «Светач», Гілеп Уладзімір Аляксандравіч.

Краязнаўчая газета
Індэкс індывідуальнай падпіскі – 63320
ведамаснай – 633202

Галоўны рэдактар – Уладзімір ГІЛЕП
Нам. галоўнага рэдактара Генрых ДАЛІДОВІЧ.
Адказны сакратар Уладзімір Пучынскі.
Рэдкалегія: Анатоль Бутэвіч, Андрэй Вірчак, Анатоль Грыцкевіч, Алесь Карлюкевіч, Лідзія Кулажанка, Адам Мальдзіс, Вячаслаў Рагойша, Віталь Скалабан, Віктар Хурсік.

Наш адрас: 220029, г. Мінск, вул. Камунальная набярэжная, 6.
Тэл. 283 28 26, 234 61 62.
E-mail: kraga@tut.by

З-за абмежаванасці сродкаў выданне безганарарнае.
Аўтарскія рукапісы не рэцэнзуюцца і не вяртаюцца.
Аўтары допісаў у рэдакцыю паведамляюць свае прозвішча, імя і імя па бацьку, асноўнае месца працы, зваротны адрас.
Меркаванні аўтараў могуць не адпавядаць пункту гледжання рэдакцыі.
Аўтары нясуць адказнасць за дакладнасць матэрыялаў.

Падпісана да друку: 22.02.2007.
Газета надрукавана ў друкарні УП «Плутас-Маркет»: г. Мінск, вул. Кульман, 1. (Ліцэнзія ЛП № 02330/0131676 ад 30 красавіка 2004 г.)
Заказ 155
Тыраж 1450 асобнікаў.